Жыві, Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 239 (252) 13 снежня 1991 г. Пятніца.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## ЗАКОН

### Рэспублікі Беларусь

**Аб мерах, звязаных з прыняццем Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб дэнансацыі Дагавора 1922 года аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік»**

У адпаведнасці з Пагадненнем аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб дэнансацыі Дагавора 1922 года аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прызнаць не дзеючымі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь Канстытуцыю СССР, законы СССР аб выбарах народных дэпутатаў СССР, аб статусе народнага дэпутата СССР, аб органах дзяржаўнай улады і кіравання СССР у пераходны перыяд.

У сувязі з гэтым лічыць страціўшымі сілу паўнамоцтвы народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і народных дэпутатаў СССР, выбраных у Рэспубліцы Беларусь, у Вярхоўным Савеце СССР і іншых органах дзяржаўнай улады СССР.

2. Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, дэлегаваныя ў склад Вярхоўнага Савета СССР, прымаюць удзел у яго рабоце ў якасці назіральнікаў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

11 снежня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мерах, звязаных з прыняццем Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб дэнансацыі Дагавора 1922 года аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мерах, звязаных з прыняццем Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб дэнансацыі Дагавора 1922 года аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» з моманту яго прыняцця.

2. Даручыць камісіям па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў і развіцця самакіравання, заканадаўству, планавай і бюджэтна-фінансавай разгледзець пытанні аб прававых і сацыяльных гарантыях народных дэпутатаў СССР, выбраных у Рэспубліцы Беларусь, у сувязі са стратай іх паўнамоцтваў і ўнесці прапановы на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

11 снежня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб дэнансацыі Дагавора 1922 года аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік**

У адпаведнасці з Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь і Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Рэспублікі Беларусь», Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Дэнансаваць Дагавор 1922 года аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і лічыць яго ндзеючым у адносінах да Рэспублікі Беларусь.

2. Гэту Пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

10 снежня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб ратыфікацыі Пагаднення аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь, РСФСР, Украінай аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, якое падпісана ад імя Рэспублікі Беларусь 8 снежня 1991 г. у горадзе Мінску Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, ратыфікаваць.

2. Даручыць Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах выказаць магчымыя заўвагі па Пагадненню аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў і ўнесці іх на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

10 снежня 1991 г.
г. Мінск.

## Аб адкрыцці нечарговай восьмай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Адкрыццё нечарговай восьмай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання адбудзецца 17 снежня 1991 года ў 10 гадзін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

## Да ведама народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь

Рэгістрацыя народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія прыбылі на нечарговую восьмую сесію, будзе праводзіцца 16 снежня 1991 года з 9 гадзін да 20 гадзін у Доме ўрада (фае залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).

## ФАКС

**● ФАКТЫ ● АРГУМЕНТЫ ● КОММЕНТАРИИ ● СУЖДЕНИЯ**

### Что говорят о Содружестве...

* Госсекретарь РСФСР, первый заместитель председателя правительства России Геннадий Бурбулис заявил в беседе с советскими журналистами: «Совершенно определенно выяснилось, что наша минская инициатива после нескольких часов раздумий руководителей большинства государств в принципе одобрена».

* Администрация Буша решила занять выжидательную позицию в отношении последних событий в СССР и не давать никаких конкретных оценок происходящего в ожидании начинающегося в субботу шестидневного визита в Москву, Киев и Минск Госсекретаря США Джеймса Бейкера.

* Председатель Совета Министров Болгарии Филип Димитров заявил, что Болгария «выступает за диалог и развитие сотрудничества с Сообществом...»

* Министр иностранных дел Латвии Янис Юрканс высказал мнение, что в состав Содружества Независимых Государств могут в конечном счете войти и остальные республики распадающегося Союза. По его мнению, СССР в результате превратится в сообщество, напоминающее европейский «Общий рынок».

### И вновь продолжается бой...

**Разбить на площади перед Домом Советов палаточный городок с соответствующей «наглядной агитацией» намерены ветераны Вооруженных Сил, проживающие в Могилеве.**

На такую меру бывшие военнослужащие решили пойти, если власти города не выделят им жилье...

О своем бедственном положении ветераны информировали председателя облсовета Н. Гринева, надеясь, что он поможет-таки решить наболевший вопрос.

**Николай КОМЛЕВ.**

### А сельчане остаются с носом

ГОМЕЛЬСКИЙ РАЙОН. **Жители пригородных деревень Ченки, Севруки, Хутор, Поляна выступили против массовой раздачи земли с легкой руки сельского Совета, правления колхоза «Красногвардеец» и райисполкома руководителям хозяйственных и правоохранительных органов областного и районного масштабов.**

Сельчане и сами не прочь увеличить приусадебные участки, которые, смешно сказать, равны в большинстве 2—4 соткам. В то же время городские руководители, имея государственные квартиры, запросто получают разрешение и строят коттеджи на участках в 18—20 соток.

За эти прегрешения собрание сельчан решило освободить председателя Ченковского сельского Совета М. Зубареву, высказало недоверие председателю райсовета В. Сокореву.

Свои претензии к порочной практике разбазаривания земли сельчане изложили в коллективном письме Верховному Совету РБ.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

### Собрать бы книги все...

**Проверив сельские библиотеки, отдел культуры Гродненского райисполкома пришел к выводу, что некоторые из них следует закрыть.**

В то время как в деревнях остается все меньше жителей, рапортов об увеличении числа любителей книги становится все больше.

Теперь предлагается передать книги из «изб-читален» в более крупные библиотеки, а освободившиеся помещения отдать в распоряжение местных хозяйств.

Правда, окончательное решение — за исполкомом. А он пока молчит.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**

### БелаПАНорама

✦ В Министерство юстиции республики поданы документы на регистрацию Свободного профсоюза Беларуси. Согласно уставу, основная цель этой организации — защита социальных, экономических прав и интересов трудящихся.

◆ 519 продовольственным магазинам Москвы разрешена самостоятельная закупка продуктов у населения, колхозов и совхозов. Цены на них магазины устанавливают тоже сами.

✦ Литва планирует за валюту оснащать свои подразделения быстрого реагирования, охраны жизненно важных объектов и пограничную охрану. Причем оружие планируется закупить у Москвы, а технику—на Западе. До конца текущего года в эти подразделения будет призвано около восьми тысяч литовских граждан.

### Ищите их в штате Вайоминг

**Кажется, бизнесмены получили шанс не платить налоги.**

Не знаю, что там себе думают в правительстве республики, а вот фирма «Свиссинвест» из Венгрии обещает осуществить подобную мечту предпринимателей. И в подтверждение своих намерений открыло в Беларуси представительство, которое берется зарегистрировать любое предприятие в свободных экономических зонах Англии и США, где, как утверждает доверенное лицо фирмы в РБ Валерий Круглов, существует ряд льгот, в частности полное или частичное освобождение от налогов.

За услуги «Свиссинвест» берет около шести тысяч долларов. Как считают специалисты, для крупных коммерсантов выгоднее раз вложить такую сумму, чем при каждой сделке терять в несколько раз больше.

**Виктор ЛЕЩЕНКО.**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

# Закон Рэспублікі Беларусь

## АБ ПРАВАВЫМ РЭЖЫМЕ ТЭРЫТОРЫЙ, ЯКІЯ ПАДВЕРГЛІСЯ РАДЫЕАКТЫЎНАМУ ЗАБРУДЖАННЮ Ў ВЫНІКУ КАТАСТРОФЫ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС

Чарнобыльская катастрофа нанесла вялікі ўрон Беларусі, стварыла небяспечную радыяцыйную абстаноўку на значнай частцы яе тэрыторыі. Рэспубліка аб'яўлена зонай нацыянальнага экалагічнага бедства.

Гэты Закон устанаўлівае прававы рэжым тэрыторый Рэспублікі Беларусь, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку чарнобыльскай катастрофы, і накіраваны на зніжэнне радыяцыйнага ўздзеяння на насельніцтва і экалагічныя сістэмы, на правядзенне прыродааднаўленчых і абаронных мерапрыемстваў, на рацыянальнае выкарыстанне прыроднага, гаспадарчага і навуковага патэнцыялу гэтых тэрыторый. Закон рэгулюе рэжым тэрыторый радыеактыўнага забруджання, умовы пражывання, ажыццяўленне гаспадарчай, навукова-даследчай і іншай дзейнасці на гэтых тэрыторыях.

### Раздзел I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Вызначэнне паняцця нацыянальнага радыяцыйнага экалагічнага бедства**

Нацыянальнае радыяцыйнае экалагічнае бедства — гэта вынік глабальнай ядзернай аварыі, якая прывяла да неспрыяльных змяненняў экалагічнага становішча і ўмоў пражывання чалавека ў выніку выкіду ў навакольнае асяроддзе і на тэрыторыю, якая складае больш 10 працэнтаў ад агульнай тэрыторыі рэспублікі (адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі), значнай колькасці радыенуклідаў, што стварае магчымасць узнікнення вострых або хранічных паражэнняў людзей, жывёл і раслін (у тым ліку і ў форме аддаленых вынікаў), а таксама прыносіць матэрыяльны ўрон (уключаючы затраты на правядзенне аварыйных, абаронных і аднаўленчых работ па аслабленню і змякчэнню вынікаў бедства), які перавышае гадавы нацыянальны даход.

**Артыкул 2. Крытэрыі класіфікацыі тэрыторый і зон радыеактыўнага забруджання**

Пры класіфікацыі тэрыторый і зон радыеактыўнага забруджання прыняты наступныя крытэрыі:

1) магчымасць пражывання насельніцтва (велічыня эфектыўнай эквівалентнай дозы апраменьвання насельніцтва);

2) узровень забруджання тэрыторыі і асобных экалагічных сістэм;

3) магчымасць атрымання экалагічна чыстай прадукцыі (сельскагаспадарчай, лесагаспадарчай, торфу, вод і іншых відаў прадукцыі і сыравіны).

**Артыкул 3. Тэрыторыя радыеактыўнага забруджання**

Тэрыторыя радыеактыўнага забруджання — гэта частка зямель Рэспублікі Беларусь незалежна ад таго, у чым карыстанні, валоданні або распараджэнні яны знаходзяцца, на якіх у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС узнікла працяглае забруджанне навакольнага асяроддзя радыеактыўнымі рэчывамі са шчыльнасцю забруджання радыенуклідамі цэзію-137 або стронцыю-90 ці плутонію-238, 239, 240, 241, адпаведна 1,0; 0,15; 0,01 Кі/кв. км і больш, а таксама іншыя тэрыторыі, на якіх сярэднегадавая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання насельніцтва можа перавысіць (над натуральным і тэхнагенным фонам) 1,0 мЗв (0,1 бэр) у год, і землі, на якіх немагчыма атрыманне чыстай прадукцыі.

**Артыкул 4. Зоны радыеактыўнага забруджання**

Тэрыторыі ў залежнасці ад шчыльнасці забруджання глеб радыенуклідамі і ступені ўздзеяння (велічыні эфектыўнай эквівалентнай дозы) радыяцыі на чалавека адносяцца да наступных зон:

1) зона эвакуацыі (адчужэння) — тэрыторыя вакол Чарнобыльскай АЭС, з якой у 1986 годзе ў адпаведнасці з існаваўшымі нормамі радыяцыйнай бяспекі было эвакуіравана насельніцтва (30-кіламетровая зона і тэрыторыя, з якой праведзена дадатковае адсяленне ў сувязі са шчыльнасцю забруджання глеб стронцыем-90 вышэй 3 Кі/кв. км і плутоніем-238, 239, 240, 241 — вышэй 0,1 Кі/кв. км);

2) зона першачарговага адсялення—тэрыторыя са шчыльнасцю забруджання глеб цэзіем-137 ад 40 Кі/кв. км або стронцыем-90 ці плутоніем-238, 239, 240, 241 адпаведна 3,0; 0,1 Кі/кв. км і больш;

3) зона далейшага адсялення — тэрыторыя са шчыльнасцю забруджання глеб цэзіем-137 ад 15 да 40 Кі/кв. км або стронцыем-90 ад 2 да 3 Кі/кв. км ці плутоніем-238, 239, 240, 241 ад 0,05 да 0,1 Кі/кв. км, на якіх сярэднегадавая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання чалавека можа перавысіць (над натуральным і тэхнагенным фонам) 5 мЗв (0,5 бэр) у год, і іншыя тэрыторыі з меншай шчыльнасцю забруджання вышэйуказанымі радыенуклідамі, дзе сярэднегадавая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання чалавека можа перавысіць 5 мЗв (0,5 бэр) у год;

4) зона з правам на адсяленне — тэрыторыя са шчыльнасцю забруджання глеб цэзіем-137 ад 5 да 15 Кі/кв. км або стронцыем-90 ад 0,5 да 2 Кі/кв. км ці плутоніем-238, 239, 240, 241 ад 0,02 да 0,05 Кі/кв. км, на якіх сярэднегадавая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання чалавека можа перавысіць (над натуральным і тэхнагенным фонам) 1 мЗв (0,1 бэр) у год, і іншыя тэрыторыі з меншай шчыльнасцю забруджання вышэйуказанымі радыенуклідамі, дзе сярэднегадавая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання чалавека можа перавысіць 1 мЗв (0,1 бэр) у год;

5) зона пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем — тэрыторыя са шчыльнасцю забруджання глеб цэзіем-137 ад 1 да 5 Кі/кв. км або стронцыем-90 ад 0,15 да 0,5 Кі/кв. км ці плутоніем-238, 239, 240, 241 ад 0,01 да 0,02 Кі/кв. км, дзе сярэднегадавая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання насельніцтва не павінна перавышаць 1 мЗв (0,1 бэр) у год.

Дадатковыя крытэрыі ацэнкі забруджанасці радыенуклідамі (з улікам іх сумарнага ўздзеяння і іншых фактараў) устанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на падставе прапаноў Нацыянальнай камісіі Беларусі па радыяцыйнай абароне пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, рэкамендацый Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, навуковых устаноў Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь, Беларускага рэспубліканскага ўпраўлення па гідраметэаралогіі.

**Артыкул 5. Радыяцыйна небяспечныя землі**

Радыяцыйна небяспечнымі прызнаюцца землі, размешчаныя ў зонах радыеактыўнага забруджання, на якіх не забяспечваецца вытворчасць прадукцыі, якая адпавядае рэспубліканскім нормам або міждзяржаўным, эканамічным пагадненням.

Дадзеныя землі, у залежнасці ад узроўню забруджання радыенуклідамі і ступені ўздзеяння радыяцыі на чалавека, выключаюцца з гаспадарчага карыстання або на іх уводзяцца абмежаванні гаспадарчай дзейнасці.

Парадак выключэння радыяцыйна небяспечных зямель з гаспадарчага выкарыстання, а таксама віды абмежаванняў у гаспадарчай дзейнасці прадугледжаны артыкуламі 12, 13, 21—25 гэтага Закона.

**Артыкул 6. Землі адчужэння**

Радыяцыйна небяспечныя землі, якія падлягаюць адабранню ва ўстаноўленым парадку ў землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў з прычыны непрыгоднасці іх да выкарыстання па асноўнаму мэтаваму назначэнню, выдзяляюцца як землі адчужэння.

На ўказаных землях могуць праводзіцца навукова-даследчыя работы, работы па лакалізацыі і ўтылізацыі радыеактыўных адходаў і іншыя віды работ, вызначаныя Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь або міжрэспубліканскімі пагадненнямі.

**Артыкул 7. Землі абмежаванага гаспадарчага выкарыстання**

Радыяцыйна небяспечныя землі, не аднесеныя да зямель адчужэння, пераводзяцца ў разрад зямель абмежаванага гаспадарчага выкарыстання.

На ўказаных землях дапускаецца гаспадарчая дзейнасць у парадку і на ўмовах, устаноўленых гэтым Законам і іншым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8. Парадак аднясення зямель да катэгорыі радыяцыйна небяспечных**

Аднясенне зямель да катэгорыі радыяцыйна небяспечных і ўстанаўленне іх межаў ажыццяўляюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на падставе даных аб шчыльнасцях забруджання глеб радыенуклідамі, зацверджаных Беларускім рэспубліканскім упраўленнем па гідраметэаралогіі, даных радыеметрычных даследаванняў асноўных харчовых прадуктаў і гадавых эфектыўных эквівалентных доз апраменьвання, зацверджаных Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Межы радыяцыйна небяспечных зямель устанаўліваюцца і пераглядаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на аснове экспертных заключэнняў Нацыянальнай камісіі Беларусі па радыяцыйнай абароне пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, Беларускага рэспубліканскага ўпраўлення па гідраметэаралогіі, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь, Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па экалогіі па прадстаўленню выканаўчых камітэтаў абласных Саветаў народных дэпутатаў.

Камітэт па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь на аснове даных Беларускага рэспубліканскага ўпраўлення па гідраметэаралогіі, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь і Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь забяспечвае вядзенне зямельнага кадастру.

Улік радыяцыйна небяспечных зямель па зонах, складанне неабходных планава-картаграфічных матэрыялаў па даных адпаведных міністэрстваў і ведамстваў ускладаюцца на Беларускае рэспубліканскае ўпраўленне па гідраметэаралогіі.

Карты ўказаных зон, пералік населеных пунктаў, аднесеных да гэтых зон, публікуюцца ў рэспубліканскім і мясцовым друку штогод.

**Артыкул 9. Парадак пераводу тэрыторый радыеактыўнага забруджання з адной зоны ў іншую**

Рашэнне аб пераводзе тэрыторый радыеактыўнага забруджання з адной зоны ў другую прымаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь пасля правядзення ўсіх мерапрыемстваў па іх ачыстцы, комплекснаму абследаванню і экспертных заключэнняў, як гэта ўстаноўлена артыкулам 8 гэтага Закона.

### Раздзел II. ПРАВАВЫ РЭЖЫМ ТЭРЫТОРЫЙ РАДЫЕАКТЫЎНАГА ЗАБРУДЖАННЯ

**Артыкул 10. Кіраванне тэрыторыямі радыеактыўнага забруджання**

Кіраванне тэрыторыямі радыеактыўнага забруджання ажыццяўляецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў і Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у адпаведнасці з адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленнем, прызначэннем і накіраванасцю гаспадарчага, навуковага або іншага выкарыстання.

Кіраванне тэрыторыяй зоны адчужэння (эвакуацыі) ажыццяўляецца спецыяльным органам кіравання. Спецыяльны орган кіравання зоны адчужэння (эвакуацыі) ствараецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню выканаўчага камітэта абласнога Савета народных дэпутатаў і Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і падпарадкоўваецца дадзенаму камітэту.

На тэрыторыях зон першачарговага адсялення і далейшага адсялення ствараюцца спецыялізаваныя прадпрыемствы для ажыццяўлення гаспадарчай дзейнасці і мер, накіраваных на паляпшэнне санітарнага стану і зніжэнне радыяцыйнай небяспекі дадзеных тэрыторый.

**Артыкул 11. Кампетэнцыя Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у сферы выкарыстання тэрыторый радыеактыўнага забруджання**

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС з'яўляецца дзяржаўным органам, які арганізуе распрацоўку і забеспячэнне выканання мерапрыемстваў і праграм, накіраваных на мінімізацыю вынікаў чарнобыльскай катастрофы, і забяспечвае:

1) падрыхтоўку рашэнняў па аднясенню тэрыторый да зон радыеактыўнага забруджання, устанаўленню на мясцовасці межаў радыяцыйна небяспечных зямель;

2) кантроль за адабраннем забруджаных зямель у землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў і пераводам іх у катэгорыю радыяцыйна небяспечных;

3) захаванне прававога рэжыму зон радыеактыўнага забруджання (парадку адсялення, допуску людзей, уезду транспартных сродкаў, вывазу маёмасці і да т. п.);

4) распрацоўку і рэалізацыю новых падыходаў да зніжэння ўзроўню радыеактыўнага забруджання тэрыторыі і яго шкоднага ўздзеяння на людзей і навакольнае асяроддзе (з улікам і іншых шкодных фактараў), прадухіленне распаўсюджання радыенуклідаў на іншыя тэрыторыі;

5) фарміраванне і кантроль за функцыяніраваннем спецыяльных органаў кіравання на радыяцыйна небяспечных землях;

6) фарміраванне і кіраўніцтва спецыяльным органам кіравання зоны эвакуацыі (адчужэння);

7) каардынацыю падрыхтоўкі нарматыўных дакументаў і правіл, накіраваных на зніжэнне калектыўнай дозы апраменьвання насельніцтва рэспублікі ад любых крыніц іанізуючага выпраменьвання;

8) распрацоўку праграм пераадолення вынікаў катастрофы, размеркаванне матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў і фінансаў, выдзеленых на гэтыя мэты (праграмы), фарміраванне, каардынацыю і фінансаванне навукова-тэхнічных праграм, якія ахопліваюць разнастайныя аспекты даследаванняў па чарнобыльскай праблеме;

9) каардынацыю работ па мінімізацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

10) арганізацыю сістэмы магільнікаў радыеактыўных адходаў і іх бяспечнае функцыяніраванне;

11) інфармаванне насельніцтва рэспублікі аб радыяцыйнай абстаноўцы на тэрыторыі, публікацыю карт і пераліку населеных пунктаў, каардынацыю вучэбнай і санітарна-асветніцкай работы з насельніцтвам Беларусі.

**Артыкул 12. Выключэнне зямель з гаспадарчага выкарыстання**

Выключэнне зямель з сельскагаспадарчага і лесагаспадарчага выкарыстання і перадача іх спецыяльнаму органу кіравання праводзяцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на падставе экспертных заключэнняў Беларускага рэспубліканскага ўпраўлення па гідраметэаралогіі, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь, Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы, Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па экалогіі, Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню абласных Саветаў народных дэпутатаў.

Парадак выключэння з гаспадарчага абароту і пераводу зямель у катэгорыю радыяцыйна небяспечных устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 13. Парадак выключэння зямель з катэгорыі радыяцыйна небяспечных і пераводу ў гаспадарчае выкарыстанне ў адпаведнасці з асноўным мэтавым назначэннем**

Выключэнне зямель з катэгорыі радыяцыйна небяспечных і перавод у гаспадарчае выкарыстанне ў адпаведнасці з асноўным мэтавым назначэннем праводзіцца па рашэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь толькі пасля іх комплекснага абследавання і экспертных заключэнняў у парадку, устаноўленым часткай першай артыкула 12 гэтага Закона.

**Артыкул 14. Права ўласнасці на маёмасць і іншыя каштоўнасці, якія знаходзяцца на тэрыторыях, з якіх эвакуіравана або адселена насельніцтва**

Будынкі, збудаванні, машыны, абсталяванне і іншыя матэрыяльныя каштоўнасці, якія належаць прадпрыемствам (аб'яднанням) незалежна ад форм уласнасці, установам і грамадзянам, атрымаўшым за іх кампенсацыю, а таксама зямля, іншыя прыродныя рэсурсы, што знаходзяцца на тэрыторыях зоны эвакуацыі (адчужэння), зоны першачарговага адсялення і зоны далейшага адсялення, з якіх эвакуіравана ці адселена насельніцтва, з'яўляюцца ўласнасцю Рэспублікі Беларусь і пераходзяць у веданне адпаведных абласных Саветаў народных дэпутатаў.

Вываз зямлі, карысных выкапняў, іншых матэрыяльных каштоўнасцей з указаных тэрыторый дапускаецца толькі з дазволу абласных Саветаў народных дэпутатаў па ўзгадненню з органамі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Выдача дазволаў на вываз хатняй маёмасці за межы тэрыторый радыеактыўнага забруджання, з якіх праведзена адсяленне, ажыццяўляецца камісіямі раённых і абласных Саветаў народных дэпутатаў.

Парадак работы камісій устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Забруджаная радыенуклідамі вышэй устаноўленых узроўняў маёмасць падлягае адабранню мясцовымі органамі ўлады.

**Артыкул 15. Правы і абавязкі землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў**

На землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў, якія маюць зямельныя ўчасткі на тэрыторыях радыеактыўнага забруджання, распаўсюджваюцца правы і абавязкі, устаноўленыя Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб зямлі, з абмежаваннямі, якія прадугледжваюцца гэтым Законам. Яны абавязаны праводзіць у адпаведнасці

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Хачу сказаць...

# «Дон» па плакату не асвоіш

**Даганяючы не нацалуешся, а па плакату сістэму трактара не вывучыш.**

Між тым навучэнцы многіх ПТВ Мінскай вобласці толькі такім чынам і могуць асвойваць сучасную тэхніку. Менавіта сучасную, бо трэцяя частка тэхнікі, якую маюць вучылішчы, састарэла. А набыць новую — грошай няма. Напрыклад, камбайн «Дон» каштуе зараз больш за 100 тысяч рублёў. Не кожнаму такое па кішэні. Вось і прыходзіцца будучым сельскім механізатарам вывучаць трактары і машыны ўчарашняга дня. А прыйшоўшы ў гаспадаркі, як кажуць, проста ў полі праходзіць перакваліфікацыю.

Не дзіва, што вучні сельскіх школ без асаблівай ахвоты ідуць у ПТВ. А ў мінулым годзе кожны трэці з навучэнцаў кваліфікацыйны экзамен здаў на «здавальняюча». Да таго ж гаспадаркі вобласці ў апошні час не праяўляюць асаблівага клопату аб механізатарскіх кадрах.

**Мікола ЖУКОЎСКІ.**

## Есть предложение!

# И дешево, и тепло

**Много лет я занимаюсь изобретательской и рационализаторской деятельностью. Знаю, как трудно порой внедрить рацпредложение, найти заинтересованных лиц. И это в нашей стране, где все нужно совершенствовать, обновлять!..**

Когда я поместил в бюллетене изобретателей свою статью о некоторых технических решениях, то первым откликнулись новаторы... из Сахалина. Пригласили меня к сотрудничеству.

Обидно, что мои разработки никого не заинтересовали у нас в республике. У меня к вам, редакция, большая просьба. Может, пойдете навстречу инвалиду II группы. Я хочу обратиться к вам и в первую очередь к домовладельцам и жилкоммунхозам с дельным предложением. Тем, кто пользуется природным газом для горячего водоснабжения и водяного отопления, предлагаю изготовить водонагревательную установку принципиально новой конструкции без принудительной циркуляции теплоносителя в многоэтажных домах, без теплотрассы и бетонных каналов, что дает экономию топлива не менее, чем на 30 процентов. Материалоемкость установки снижается при этом на 70 процентов. В итоге — дешевое тепло в доме.

Письма прошу высылать на адрес сына (пока я нахожусь в отъезде): Минск, Институт культуры, Шендрикову Вячеславу. Кстати, он тоже изобретатель.

С уважением

**Леонид Прокопьевич ШЕНДРИКОВ,**
**могилевчанин.**

# Лесная полиция нравов. В законе

**В первых числах октября возле поселка Сосны милиция Минского района задержала необычных —даже по нашим временам — преступников**

МОЛОДОЙ мужчина с любовницей, приехав в лес, остановили машину на укромной полянке. И вдруг... Открываются двери, ослепляющий свет фонариков, блеск ножей.

— Деньги и золото!

Перепуганная влюбленная парочка безропотно подчинилась. И не солоно хлебавши возвратилась в город. Но в милицию не заявили.

«Ну, как в кино!» — слышал я от многих.

Тем, кто видел фильм Эльдара Рязанова «Забытая мелодия для флейты», это напомнило «круиз» чиновника Леонида Филимонова с медсестрой на лоно природы. Их, уединившихся, потревожили парни, находчиво назвавшиеся «дружинниками нравственности». Предложили заплатить штраф. Конечно. Двадцатьпятка? Пожалуйста. Только бы в семье не узнали о тайных интимных похождениях.

В Минском районе происходило похожее, но в более опасной форме. В РОВД поступали непроверенные сведения о жестоких ограблениях. Однако, увы, конкретными фактами никто не располагал.

Неожиданно в полночь в дежурной части милиции раздался телефонный звонок. Взволнованный, дрожащий голос поведал: вымогают крупную сумму. События разворачивались следующим образом. Приехал со своей дамой сердца в лес. Вышел из машины перекурить. Между деревьями метнулись четыре темных силуэта. Предчувствие чего-то ужасного на секунду сковало его. Но, оправившись от страха, бросился к автомобилю. Ночные гости попытались перерезать путь, но не успели. Влетев в салон своего «москвичонка», лишь успел крикнуть растерявшейся подруге: «Закрывай дверь!» Поздно. Около спутницы выросла крепкая фигура, ослепляя обитателей салона карманным фонариком. У женщины забрали около двухсот рублей из сумочки. А затем потребовали снять кофту и джинсовую юбку. На плач и мольбу оставить одежду — никакой реакции. Правда, посоветовавшись, смилостивились: находишь четыреста рублей, шмотку вернем. Иначе вези «крошку» к ее мужу в таком виде...

Примчавшись в город, водитель сразу позвонил в райотдел. Операцию по захвату банды спланировали стремительно. Капитан и лейтенант милиции легли на пол легковушки. При въезде в лес неизвестные осветили машину фонариками. Не увидев прятавшихся там оперативников, пропустили дальше. На полянке подошли двое и потребовали выкуп. В это же мгновение распахнулись двери. После предупредительного выстрела один из преступников сдался. Второй принялся убегать, но его ранили в ногу.

Где же остальные? Как потом выяснилось, пятидесятилетний Л. оказался в этой компании случайно. Ему просто нравилось наблюдать из бинокля за автолюбовью горожан. Но, узнав, что его знакомые, кроме созерцания, еще и «подрабатывают», поспешил восвояси. Четвертого же из той группы вычислить не удалось. О нем задержанные предпочли умолчать.

Газеты написали: тех, кто подвергся нападению возле поселка Сосны, просят явиться в местный РОВД. Но спрогнозировать резонанс особого труда не составляло. Всего три пострадавшие пары рискнули раскрыться. Тридцатилетняя Светлана смущенно поведала, что аналогичным образом у нее отняли турецкий свитер, джинсовое платье, перчатки и деньги. С кем ездила? Его фамилии не знаю. Зовут Виктор, он иногда заглядывал ко мне на работу, и мы отправлялись за город. Женат, имеет детей. Почему сразу не обратилась? Он запретил.

Следствие в самом начале поджидал сюрприз. Оказывается, задержанные — Г. Гельжинский и М. Котовский —облюбовали здесь золотую полянку еще три года назад. Поначалу едва не попались, но удалось выкрутиться— заведенное уголовное дело закрыли «за отсутствием состава преступления». Короче, механизм ограбления они открыли давно, но розыскники прошли мимо, сведя все к заурядной пьяной драке.

Тогда, в восемьдесят восьмом году, Геннадий Гельжинский и Михаил Котовский служили прапорщиками в воинской части под Минском. В один из осенних дней закупили побольше водки, пива и решили развеяться на природе. Стало вечереть. Пора возвращаться в военный городок. Приметили невдалеке автомобиль.

— Пошли заберем.

Едва держась на ногах, направились к заветной «тачке». Сперва и не обратили внимания, что рядом с водителем, обнимая его, сидела женщина. Заглянули в открытое окно. Александр К., хозяин новенького «москвичонка», отмахнулся от пьяных и посоветовал им идти своей дорогой, но когда услышал угрозы и увидел перочинный нож, пронзила мысль, — хотят угнать машину. Его попутчица Галя открыла дверцу и выскочила. Саша — не замедлил последовать ее примеру. Растерянно глянул на свою руку: текла кровь и был порезан свитер. Перепуганная чета убежала в лес. А вернулась сюда с милицейским патрулем. Одного из нападавших нашли рядом. Он спал, укутавшись в Галин плащ. Куда же делись другие вещи из автомобиля: пиджак, женская бордовая сумочка и туфли?— разобраться не удалось.

Саша попал домой лишь к четырем утра. Его жена не спала. Поставила на плиту разогревать ужин. Все были возбуждены. Муж туманными выражениями начал объяснять, мол, ездил на техстанцию покупать колеса. Пытались обворовать. Преступников поймали... К отцу прижалась дочурка. Жена настороженно глядела на супруга, но его спокойное и уверенное лицо, как обычно, разогнало все ее подозрения.

Тогдашнее следствие тянулось медленно. Из показаний нападавших получалось: они не замышляли никого грабить, а попросили подбросить в городок. Внезапно вспыхнула драка. О ноже впервые слышат, о пропавших вещах также. Все списывалось на обычную пьянку. К Гале, у которой, кстати, тоже есть семья, и к Саше не переставая ходили родственники арестованных. Упрашивали забрать заявления из милиции...

Потерпевшие написали, что им возвращен материальный ущерб, и они больше не имеют претензий к своим обидчикам. Добавили: все равно тюрьма никого не исправляет. Вскоре Гельжинского и Котовского освободили. Правда, командование воинской части тут же уволило их в запас и лишило званий.

Но пьянящее чувство безнаказанности уже кружило им головы, зовя к новым похождениям. Устроившись на работу, принялись обдумывать, как на тайных интимных связях между людьми «ковать» деньги. Действительно, не стоит пробовать забирать машину, тут любой к правосудию прибегнет, а, скажем, изъять сотню рублей, пару колечек—безопасно.

Сказано — сделано.

...Белый «жигуленок» тихо прошуршал по лесной дороге и затормозил под ветвистыми деревьями. Спрятавшиеся поблизости коренастые мужчины выжидали. А затем метнулись к автомобилю. Двумя фонариками осветили салон.

— Слышь, шофер, купи свое колесо.

Когда выслеженные влюбленные увидели ножи, сомнения отпали: грабители.

— Деньги!

Блеснули золотые сережки.

— Снимай! Поживее!

Женщина растерянно и вопросительно посмотрела на бывшего воздыхателя. Но тот опустил покорно глаза: «Отдавай».

Обобрав до ниточки, скомандовали:

— Не включать свет, пока не уйдем.

И зловещие фигуры исчезли в темноте, никем не остановленные.

Но почему же практически никто не отважился обратиться в правоохранительные органы?

Можно объяснить молчание потерпевших нежеланием какой-либо огласки. Хотя отмечу, на удочку ловких вымогателей попадались и те, у кого никогда не было заветного штампика в паспорте. Так в чем же еще причина? Давайте взглянем на проблему с другой стороны. Как правосудие относится к подобным потерпевшим и преступникам. Гельжинский и Котовский осуждены на три года условно с обязательным привлечением к труду.

По мнению многих, суд вынес решение более чем мягкое. Почему? В приговоре есть четкий ответ: «Преступные действия в определенной степени были обусловлены не совсем правильным в моральном отношении поведением пострадавших...» Может, именно отсюда та укоренившаяся боязнь искать защиты у закона, отсюда — и стремление к молчанию, которое дороже золота?

**Виктор ЛЕЩЕНКО.**

## Письма парламенту и правительству

# Коммуналки— тоже приватизировать!

Уважаемая редакция «Народной газеты»!

Хочу высказать два замечания по поводу проекта «О приватизации жилищного фонда в БССР».

Вызывает возмущение статья 18 проекта, которая запрещает выкуп комнат в квартирах, заселенных несколькими нанимателями. Ведь это положение дискриминационное, затрагивает интересы многих тысяч семей, которые на протяжении многих лет живут в коммунальных квартирах, не имея возможности получить в силу разных причин отдельную. Для многих людей такие квартиры являются родным домом, который они могут безвозвратно потерять.

Я предлагаю снять запрет с приватизации комнат в коммунальных квартирах, по крайней мере в таких, в которых люди живут постоянно в течение 20—30 лет.

Проект «обижает» и те семьи, в которых часть членов семьи уже ушла из жизни. Таким семьям для того, чтобы сохранить родной очаг, надо нести дополнительные и очень большие расходы. В индивидуальных домах такой проблемы нет. Значит — опять дискриминация значительной части населения республики.

**В. КОСЦОВА.**
г. Минск.

# ШТАМП СТАНОВИТСЯ ПОМЕХОЙ

С углублением рыночных отношений, несомненно, увеличится количество безработных. Усилится миграция граждан в поисках подходящей работы, которую по месту прописки и проживания подчас найти очень сложно даже с помощью государственной службы занятости.

У меня есть предложение. При устройстве на работу, скажем, в другом районе, в сельской местности, в своем районе не требовать у безработного паспорт со штампом о выписке и прописке. Допустим, у меня в городе квартира, в ней я прописан и проживаю. Но в этом городе, проработав на разных должностях десять лет, попал дважды под сокращение и больше найти подходящей работы не могу. Бросай квартиру, на которую стоял 10—15 лет, детей малолетних, жену-инвалида, подавай на развод или меняй квартиру...

Я считаю, что когда принимали Закон БССР «О занятости населения», не все жизненные вопросы отразили в нем.

**А. СМОЛИЧ,**
**безработный.**
г. Солигорск.

## З першых вуснаў

# Лібералы—уперад!

**На прайшоўшым II з'ездзе Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі была прынята Дэкларацыя праграмных мэт і прынцыпаў. Але ў друку аб ёй было сказана толькі ў самых агульных рысах. Расказаць аб гэтым дакуменце больш падрабязней карэспандэнт «НГ» папрасіў намесніка старшыні выканкама АДПБ Віктара КАМАРОВА.**

— Цяпер перад грамадствам стаіць задача: пераадолець эканамічны і сацыяльны крызіс. Але гэта не так проста. Якім шляхам ісці? Можна пачаць рэалізоўваць сацыяльна-дэмакратычныя праекты, а можна праводзіць рэформы, абапіраючыся толькі на ідэі нацыянальнага адраджэння. Наша ж партыя прапануе зусім іншы выхад з сённяшняй цяжкай сітуацыі. Перш за ўсё — зрабіць акцэнт на ўздым значнасці ліберальных каштоўнасцей, свабод чалавека.

Мы лічым, што галоўным гарантам незалежнасці любой асобы з'яўляецца прыватная ўласнасць. Ліквідацыя яе ці абмежаванне непазбежна нясуць з сабой і заціскание палітычных, эканамічных і рэлігійных свабод. Ды да таго ж, як вядома, паўнапраўны гаспадар ніколі не будзе зацікаўлены ў хаосе, анархіі, узрушэннях.

**— Але ж і ў такім грамадстве патрэбны абаронныя механізмы, якія не дазвалялі б «вярхушцы» парушаць правы грамадзян.**

— Безумоўна. Таму ў першую чаргу трэба як след падзяліць заканадаўчую, выканаўчую і судовую ўлады. Далей: трэба развіваць самакіраванне, удасканальваць шматпартыйную сістэму, даваць прастору для прадпрымальніцтва, смялей уводзіць рынкавыя адносіны.

**— А як АДПБ ставіцца да пытання нацыянальнага адраджэння?**

— Станоўча. Спыніць працэс знікнення беларускай мовы — гістарычная неабходнасць. Беларусы маюць права размаўляць на той мове, на якой яшчэ зусім нядаўна гаварыла пераважная большасць насельніцтва рэспублікі. Разам з тым мы мяркуем, што палітыка дзяржавы ў гэтым шматгранным пытанні не павінна весці да заціскання правоў чалавека. Што тут маецца на ўвазе? Нельга пазбаўляць, напрыклад, бацькоў магчымасці вучыць дзяцей на той мове, на якой яны гавораць у сям'і. Ніхто не возьмецца адмаўляць — большасць жыхароў РБ пакуль усё ж размаўляе па-руску. АДПБ мяркуе натуральным існаванне на адной тэрыторыі руска- і беларускамоўнай культуры.

Адраджэнне нашай рэспублікі, уключэнне яе ў супольнасць цывілізаваных краін патрабуе не толькі нацыянальнай самасвядомасці як усведамлення свайго адрознення ад іншых народаў, але і разумення свайго падабенства з імі. Асновай гэтага падабенства з'яўляюцца ліберальныя каштоўнасці, каштоўнасці, якія зрабілі Заходнюю Еўропу і іншыя краіны культурнымі і цывілізаванымі.

## Жыві і памятай

# Хачкар у Мінску



**ХАЧКАР — помнік-крыж у памяць ахвяр землятрусу ў Арменіі ўстаноўлены на Вайсковых могілках у Мінску ў трэцюю гадавіну з дня трагедыі.**

Беларусь, як вядома, таксама прыняла бежанцаў з Арменіі і ў далейшым будзе клапаціцца пра іх лёс. Гэты помнік для іх — сімвал і часцінка Радзімы (ён выкананы ў Арменіі), сімвал пакуты супляменнікаў, месца, куды можна прыйсці памаліцца за спачын душ родных і знаёмых, якія загінулі ў той дзень. Ініцыятарам гэтай акцыі стала грамадска-культурнае армянскае таварыства «Айастан», якое два гады таму створана пры Мінскім гарадскім фондзе культуры (узначальвае яго Лявон Дарбінян).

Фота Міхася ЖЫЛІНСКАГА.

# ЦЕНЫ НА РЫНКАХ (В РУБЛЯХ) НА 11 ДЕКАБРЯ

**САНКТ-ПЕТЕРБУРГ (КУЗНЕЧНЫЙ РЫНОК).** Говядина (1 кг) — 100—180, свинина — 100—200, сметана — 100, творог — 40, картофель — 5—7, капуста — 4—5, морковь — 6—7, свекла — 9—10.

**ВИЛЬНЮС.** Говядина — 25—35, свинина — 35—40, сметана — 12, творог — 8, картофель — 2,5—3, капуста — 4—5, морковь — 5, свекла — 3.

**РИГА.** Говядина — 45—50, свинина — 70—80, сметана — 50—60, творог — 30, картофель 4—5, капуста — 2, морковь — 3—5, свекла — 3.

**МИНСК (Комаровский рынок).** Говядина — 30—40, свинина — 35—45, баранина — 25—30, сметана — 20, творог — 20, масло — 50, яйца (десяток) — 15—20, мед — 80, картофель — 4, морковь — 4, капуста — 1,5—3, яблоки — 12—20, мандарины — 18—30, сигареты «Космос» (1 пачка) — 8, пиво (1 бут.) — 4.

**«Агентство РИД».**

## Мнение

# ПУСТЬ ВНОВЬ ПОДНИМЕТСЯ НАД ГОРОДОМ ХРАМ!

**По указанию коммунистических партократов в 1953 году в городе Пинске был разрушен Иезуитский собор — историческая достопримечательность Полесского края.**

Двухметровые стены этого архитектурного сооружения устояли перед нашествием фашистских полчищ, но не могли выдержать многотонных зарядов взрывчатки, заложенных в его подвальные ниши другими нечестивцами.

Мы, граждане этого края, хотим, чтобы над Пинском вновь засветился купол в лучах восходящего солнца, а поэтому просим всех людей доброй воли поддержать наше предложение о строительстве в городе Пинске нового храма.

С уважением

**Н. ЛАГОДИЧ,**
**Л. ЖУК,**
**Т. ЛИТВИНЧУК и другие.**
г. Пинск.

## А что на Брестчине?

### Читая Ленина

Производственное объединение «Кузлитмаш», по сообщению газеты «Пинская неделя», не уберегло самого дорогого из арестованной собственности своего парткома — полного собрания сочинений вождя.

### Союз нерушимый?

Союз предпринимателей Пинска решили создать руководители местных кооперативов и малых предприятий. Конкуренция конкуренцией, но борьбу с государственной монополией имеет смысл вести сообща, рассудили они и созвали учредительное собрание.

### Герой Белого дома учился в Столине

В Столинском сельхозтехникуме вспомнили, что пять лет назад его заочно окончил Владимир Усов, герой и жертва гэкачепистского путча. Владимир экстерном сдал тогда выпускные экзамены на бухгалтерском отделении и, сэкономив год, стал специалистом...

Техникумовским музеем ведется сбор материала, посвященного личности погибшего у Белого дома выпускника.

**Василий САРЫЧЕВ.**

## Черное крыло Чернобыля

# Это хуже радиации

Приказом главврача 3-й городской больницы за № 148 от 19 мая 1986 года я была командирована в распоряжение Наровлянской райбольницы. Работала в зоне в должности фельдшера-лаборанта, понимая, что это мой долг — помогать людям, попавшим в беду.

Прошло время, появился Закон о социальной защите пострадавших от аварии на ЧАЭС. Я обратилась в отдел кадров больницы за справкой, что находилась в зоне, чтобы получить удостоверение ликвидатора. Меня долго водили за нос, гоняли по кругу. Оказалось, что моя фамилия не была даже внесена в списки, поданные в облздравотдел. Волокита продолжалась более полугода. Потом, когда я наконец-то добилась справки, ее мне выдали с таким видом, будто я залезла в чужой карман, незаконно требую для себя льготы.

Боже, как это унизительно— терпеть издевательства бюрократов. Когда потребовалась наша помощь, приказ написали немедля. А потребовалась мне справка — ходи, выпрашивай. Унижение, оскорбление, подозрительность — хуже радиации. Зачем тогда было писать закон?

**Валентина ЯКОВЛЕВА.**
г. Витебск.

## Крик души

# Помогите пережить зиму

Я нуждаюсь в помощи. Просить милостыню не пойдешь, люди засмеют, но, может быть, у кого-то остались детские вещи, и им нет применения—мы с детьми будем благодарны.

Мне 32 года, одна воспитываю сына и дочь, алиментов не получаю, хотя неоднократно обращалась в ново-уренгойский народный суд с просьбой взыскать их с бывшего мужа. Работаю лаборанткой в котельной города Коссово Ивацевичского района Брестской области. Никакого подсобного хозяйства нет, доход мой минимальный — 450 рублей в месяц. Но как ни экономлю, а школьного костюма сыну купить не смогла. Курток в магазине нет, а на базаре совсем ветхую за 300 рублей продают. Уже холодно, а он, бедняга, в туфельках в школу ходит. Если у кого-то осталась куртка 40-го размера, ботинки или сапоги 25,5, очень прошу — поделитесь. Помогите нам пережить зиму. Наш адрес: 225262, Брестская область, Ивацевичский район, г. Коссово, ул. Красноармейская, д. 4, корп. 1, кв. 23. Иванишко Вере Ивановне.

**ОТ РЕДАКЦИИ. Мы оформили Вере Ивановне годовую подписку на «Народную газету».**

## Знаёмы выпадак

# ПАПЯРОВЫЯ ПРАБЛЕМЫ

**Яшчэ ў ліпені Гомельскае абласное ўпраўленне па друку паведаміла рэдакцыйным калектывам раённых газет сумную вестку: асноўны пастаўшчык паперы з далёкай Кандапогі адмовіўся поўнасцю выконваць дагаворныя абавязкі, таму трэба мяняць графік выхаду газет на двухразовы.**

Большасць «раёнак» пайшла па гэтаму шляху, рэдакцыя ж «Светлагорскіх навін» вырашыла стаяць да канца. Да апошняга моманту неяк ўдавалася выкручвацца, шукаць і знаходзіць разам з заснавальнікамі нехапаючую паперу. І вось эканамічнае бязладдзе «дастала», як кажуць, і іх. Абставіны вымушаюць скараціць выпуск газеты.

Пакуль жа рэдакцыя звярнулася да чытачоў за падтрымкай стварыць фонд газеты, які дасць магчымасць крыху выправіць цяжкае становішча, у якім апынулася адзінае на Светлагоршчыне выданне.

**Мікола ПАСЕДЗЬКА.**

## Смачна есці!

# П'е малышня кумыс

І не ў стэпах Казахстана ці долах Кыргызстана — у вёсцы Старыя Фалічы Старадарожскага раёна. Праўленне тутэйшага калгаса «Герой працы» стварыла кабылiную ферму, на ёй утрымліваецца 25 матак, 14 — дойных. У дзень яны даюць па 16—20 літраў малака, з якога ў кумысным цэху вырабляюць смачны і каштоўны для здароўя дзяцей і дарослых напітак. Кожны дзень 5—6 літраў яго дастаўляюць у дзіцячы садок, і 20 хлопчыкаў і дзяўчынак з ахвотай п'юць ласунак. А ўсяго з пачатку года цэх вырабіў 5400 літраў кумысу. Прадаюць яго і дарослым — па 1 рублю 40 капеек за літр.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

